# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі ◇



## СВЕТ

### ПЕРШЫЯ МІРНЫЯ ДНІ

У Ханой прыйшлі дні мірнай працы. Вуліцы і плошчы сталіцы ўпрыгожаны сцягамі, транспарантамі і маляўнічымі плакатамі, якія сімвалізуюць мужнасць, гераізм, перамогу народа ў барацьбе за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы. У гонар перамогі ва ўсіх гарадах і населеных пунктах на працягу 8 дзён былі вывешаны нацыянальныя флагі.

З вялікім натхненнем сустрэў увесь в'етнамскі народ зварот ЦК Партыі працоўных В'етнама і ўрада ДРВ, у якім былі намечаны новыя задачы па аднаўленню разбуранай вайной народнай гаспадаркі краіны.

Вестка аб аднаўленні міру выклікала вялікі працоўны ўздым па ўсёй краіне. Напружаная праца кіпіць у ханойскім рачным порце, да вугальных кар'ераў Хангая сцягваюцца экскаватары, бульдозеры і іншыя машыны, выведзеныя адтуль на час бамбардзіровак, па дарогах, якія вядуць у Ханой, рухаюцца аўтамашыны, гружаныя абсталяваннем для прадпрыемстваў і ўстаноў, эвакуіраваных раней у сельскія раёны.

### НАД ПРАБЛЕМАМІ БАРАЦЬБЫ З ЗАСУХАЙ

Праблемы барацьбы з засухай і забеспячэння далейшага росту сельскагаспадарчай вытворчасці вынесены на абмеркаванне аб'яднанай сесіі Акадэміі навук СССР і Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук СССР.

### КАНСУЛЬТАЦЫЯ Ў ВЕНЕ

У Вене адбываюцца падрыхтоўчыя кансультацыі прадстаўнікоў еўрапейскіх краін, ЗША і Канады па арганізацыі перагавораў аб узаемным скарачэнні ўзброеных сіл і ўзбраенняў у Еўропе.

### СЕСІЯ САВЕТА АБАРОНЫ

У Каіры закончылася надзвычайная сесія савета сумеснай абароны арабскіх дзяржаў, у якой прымалі ўдзел міністры замежных спраў і абароны, а таксама дэлегацыя палесцінскага руху супраціўлення.

На сесіі прынята шэраг важных рашэнняў адносна аб'яднання намаганняў і каардынацыі дзеянняў арабскіх краін у іх барацьбе супраць ізраільскай агрэсіі. Савет назначыў ваеннага міністра АРЕ генерала Ахмеда Ісмаіла Алі галоўнакамандуючым паўднёвым (Егіпет), паўночным (Сірыя) і ўсходнім (Іярданія) франтамі.

### ПАВЫШЭННЕ ЦЭН У ДАНІІ

Урад Даніі аб'явіў аб павышэнні з 1 лютага гэтага года цэн на наступныя прадукты харчавання: на малако — на 20 працэнтаў, на масла — на 15, на сыр — на 25, на хлеб — на 20, на цукар — на 30 працэнтаў.

### ЗВАЛЬНЕННІ

Амерыканскія манаполі ў пагоні за звышпрыбыткамі праводзяць кампанію масавых звальненняў працоўных. Так «Нью Йорк тэлефон компані» ў 1972 годзе звольніла каля 8 тыс. рабочых і аб'явіла аб наступным звальненні яшчэ 5 тысяч чалавек. Канцэрн «Галф ойл карпарэйшн» звольніў каля 2 тыс. чалавек, кампанія «Сентрал рэйлдроуд оф Нью-Джэрсі» за апошнія два месяцы звольніла 400 рабочых. (ак)



## БССР

### ВЫНІКІ 1972 ГОДА

Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне аб'явіла вынікі змаганняў працоўных Беларусі за выкананне планавых заданняў 1972 года. Гадавы план прадукцыі прамысловыя прадпрыемствы БССР выканалі на 101,6 працэнта. Прырост прамысловай вытворчасці ў параўнанні з папярэднім годам склаў 9,7 працэнта. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці ўзрасла за год на 6,3 працэнта. Нацыянальны даход павяліčыўся на 8 працэнтаў.

З паведамлення ЦСУ вынікае, што ўсе галіны нацыянальнай гаспадаркі БССР паспяхова закончылі мінулы год.

### У КАЛГАСЕ «РАСІЯ»

Калгас «Расія» Дзятлаўскага раёна за добрыя прадукцыйныя вынікі быў удастоены Юбілейнага ганаровага знака ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР і ВЦСПС. Калектыў калгаса ў адказ рашыў яшчэ болей павысіць свой ураджай. Калгаснікі з «Расіі» ў 1973 годзе спадзяюцца атрымаць з кожнага гектара не менш чым 30 цэнтнераў збожжа.

### АРШАНСКІЯ СТАНКІ

Складаныя станкі для апрацоўкі металу, якія выпускае аршанскі завод, знайшлі шырокае прызнанне ў спецыялістаў. Іх прадаюць у 57 краін свету. Асабліва адзначаюцца бездакорнай працай станкі з праграмным кіраваннем. За апошнія гады завод амаль падвоіў сваю прадукцыю.

### ПРА МІНУЛАЕ БЕЛАРУСІ

Беларускія вучоныя-гісторыкі рыхтуюць калектыўнае даследаванне па гісторыі Беларусі. Яно разлічана на 5 тамоў. Першы том гэтай «Гісторыі Беларускай ССР» ужо паявіўся. Яго апрацавала рэдакцыйная калегія пад кіраўніцтвам К. І. Шабуні, а надрукавала Мінскае выдавецтва «Навука і тэхніка».

У гэтым томе даецца распрацоўка першабытнага ладу і эпохі феадалізму на тэрыторыі Беларусі. Знаходзім тут новае асвятленне, абаснаванае на багатым архіўным матэрыяле, праблем фарміравання беларускай нацыі і антыфеадальнай класавай барацьбы працоўных Беларусі. Аўтары тома часта закранаюць гісторыю Польшчы. Таму «Гісторыя Беларускай ССР» павінна зацікавіць польскіх даследчыкаў нашага супольнага мінулага.

### «ТРЫБУНАЛ» А. МАКАЁНКА Ў МАСКВЕ

Няспынным поспехам масквічоў карыстаецца камедыя «Трыбунал», аўтарам якога з'яўляецца сучасны беларускі драматург Андрэй Макаёнак. Яе ставіць Маскоўскі драматычны тэатр з Малой Броннай.

Нядаўна гэты тэатр запрасіў на гасцінныя гастролі двое беларускіх акцёраў — Г. Макараву і Г. Аўсяннікава, якія ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску выконваюць галоўныя ролі — Паўліны і Цярэшкі — Макаёнкавай камедыі. Выступаючы супольна з маскоўскімі калегамі, мінскія артысты выконвалі свае ролі на беларускай мове. Гэта вельмі падабалася масквічам, якія беларускіх акцёраў адарылі кветкамі і добрым словам. (вр)




### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

30 студзеня адбылося пасяджэнне Палітбюро, на якім абмяркоўвалася справаздача аб візіце польскай дэлегацыі на чале з І сакратаром ЦК ПАРП Э. Геркам і старшынёю Рады Міністраў П. Ярашэвічам у Чэхаславакію. Галоўнай тэмай праведзеных размоў, як вядома, былі справы супрацоўніцтва двух братніх партый і краін, а таксама магчымасці яго далейшага пашырэння.

У чарговым пункце пасяджэння Палітбюро знаёмілася з інфармацыяй міністра замежных спраў адносна сітуацыі ў В'етнаме пасля заключэння дагавору аб заканчэнні вайны і звароту да мірнага жыцця.

У часе нарады Палітбюро знаёмілася таксама з ходам справаздачна-выбарных сходаў у пярвічных партыйных арганізацыях, а таксама першых павятовых і гарадскіх канферэнцыяў. Палітбюро адзначыла, што ў партыйнай дыскусіі члены партыі звярнулі асаблівую ўвагу на выкарыстанне існуючых рэзерваў у прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы.

### ПЛЕНАРНЫЯ ПАСЯДЖЭННІ ВК ПАРП

29 студзеня адбыліся пленарныя пасяджэнні Ваяводскіх камітэтаў ПАРП у Ольштыне і Кашаліне. На пасяджэнні ВК ПАРП у Ольштыне абмяркоўвалася праграма рэалізацыі пастаноў Палітбюро ЦК аб далейшым удасканальванні кадравай палітыкі і павышэнні ўзроўню кіруючых кадраў. У пасяджэнні прымаў удзел намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК ПАРП С. Каня.

Задачы партарганізацый у пашырэнні грамадска-прадукцыйнай актыўнасці сярод кашалінскага грамадства былі тэмай пленарнага пасяджэння Ваяводскага камітэта партыі ў Кашаліне. У нарадзе ўдзельнічаў сакратар ЦК ПАРП С. Кавальчык.

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

2 лютага І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Велькапольску. Цікавіўся ён праблемамі сельскай гаспадаркі, жывёлагадоўляй і сацыяльна-бытавымі ўмовамі рабочых калектываў.

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА

1 лютага І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з прадстаўнікамі амерыканскага банка Д. Ракфелерам і М. В. Куранам. Тэмай размоў былі некаторыя праблемы, звязаныя з польска-амерыканскім гаспадарчым абменам.

### Ю. ФАЙКОЎСКІ — НАМЕСНІК МІНІСТРА КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА

Старшыня Рады Міністраў назначыў др Ю. Файкоўскага намеснікам міністра культуры і мастацтва. (яц)

**ГП БГКТ і ПА БГКТ у Варшаве выказваюць глыбокае спачуванне інструктару ГП БГКТ на варшаўскі аддзел**

**ВІКТАРУ ШВЕДУ**

**з прычыны смерці маці.**



## ВАЯВОДСТВА

### ВЫСОКІЯ ГОСЦІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Беласточчыну наведалі члены Палітбюро ЦК ПАРП: прэм'ер Пётр Ярашэвіч і віцэ-прэм'ер Мечыслаў Ягельскі. Візіт праходзіў у рабочай атмасферы. Адбылася сустрэча з экзекутывай ВК ПАРП, потым госці разам з партыйнымі і адміністрацыйнымі ўладамі ваяводства наведалі беластоцкія прадпрыемствы: фабрыку прыладаў і ухвытаў, дзе вялі непасрэдныя размовы з рабочымі (фабрыка гэтая належыць да перадавых у краіне), далей госці пабывалі ў «Хладні складовай» і «Мясных закладах». Потым пабывалі на будоўлі цукроўні ў Лапах і сустрэліся з яе будаўнічымі. Увечары Пётр Ярашэвіч і Мечыслаў Ягельскі сустрэліся з гмінным актывам у Саколах. Цікавіліся, як працуе гміна і як служыць гаспадарам.

### ЧАРГОВЫЯ ПАРТЫЙНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

Чарговыя павятовыя партыйныя справаздачна-выбарныя канферэнцыі адбыліся ў Аўгустове, Беластоку, Голдапе, Элку і Сэйнах. Галоўныя тэмы: грамадска-гаспадарчыя і ідэалагічныя праблемы ў мінулай кадэнцыі, праграма працы на наступныя два гады і выбар дэлегатаў на Ваяводскую партыйную канферэнцыю. На кожнай павятовай канферэнцыі прысутнічаў адзін з членаў экзекутывы ВК ПАРП.

### 16 БЕЛАСТОЦКІХ МІЛЬЁНАЎ НА ФОНД АХОВЫ ЗДАРОЎЯ

16 мільёнаў злотых унеслі ў студзені жыхары ваяводства на фонд аховы здароўя. Асабліва вялікі ўдзел праявіла тут вясковая моладзь. Беласточчына дараўняла ў гэтым зборы да такога багатага ваяводства, як Катавіцкае (таксама 16 мільёнаў зл. у студзені).

### БЕЛАСТОЦКІ ДОМ ГАНДЛЁВЫ Ў ВАРШАВЕ

У Варшаве на Алеях Уяздоўскіх будзе адкрыты Дом гандлёвы з беластоцкімі таварамі. Прадаўшчыцы будуць апрануты ў нацыянальныя ўборы Беласточчыны.

### НАЙЛЕПШАЙ У КРАІНЕ...

...аказалася Беластоцкая станцыя ацэнкі насення. Яна атрымала пераходны сцяг міністра сельскай гаспадаркі і прафсаюза сельскагаспадарчых рабочых.

### МАЛАДЗЁЖНЫ ПАТРАНАТ ЗДАЕ ЭКЗАМЕН

45 маладых сем'яў атрымала кватэры ў першым будынку, пабудаваным пад патранатам ЗМС. (вл)

**ГП БГКТ, ПА БГКТ у Беластоку і калектыў «Нівы» выказваюць глыбокае спачуванне члену ГП БГКТ, старшыні Аддзела БГКТ у Беластоку і публіцысту «Нівы»**

**МІКАЛАЮ ГАЙДУКУ**

**з прычыны смерці бацькі.**




**Niedziela 11.II.**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.35 Program oświatowy. 11.05 „Winobranie 72" — rep. film. 11.45 Dziennik. 12.00 Sprawozdawczy magazyn sportowy. 13.30 „Przemiany". 14.00 Dla dzieci: L. J. Kern — „Mój przyjaciel samochód" cz. II („Karampuk"). 14.30 „W Klubie" — wieczór drugi. 15.10 „Kopernik" — film dok. („Epoka i ludzie") cz. I. 15.40 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie — Pokazy mistrzów. 17.30 „Program widzów" („W starym kinie"). 18.30 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.05 „Powroty" — film TVP („Chłopi") odc. XII. 20.55 PKF. 21.05 „How do you sir?" czyli „Uśmiech i piosenka angielska". 22.00 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 12.II.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka — „Prawa logiki". 13.20 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin — „Przewidywanie pogody". 15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: W. Perzyński — „Szczęście Frania". 21.15 Publicystyka międzynarodowa. 21.45 Gra Wiktor Tretiakow (ZSRR) — skrzypce. 22.15 Dziennik.

**Wtorek 13.II.**

9.05 „Powroty" — film TVP („Chłopi") odc. XII. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) „Przy ulicy Floriańskiej w Krakowie". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „150 rejsów „Turleja" („Morskie spotkania"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Miłosne rozterki" — film fab. ang. 20.55 „Teatr i poezja" (rzecz o teatrze E. Brylla). 21.40 „Goyam Neluma" — „Żniwa ryżowe" — tańce i melodie Sri Lanka (dawniej Cejlon). 22.05 „Kwadrans" — fel. film. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.50 TV Technikum Rolnicze: Matematyka — „Prawa logiki". 23.20 TV Technikum Rolnicze: Uprawa roślin — „Przewidywanie pogody".

**Środa 14.II.**

9.00 „Miłosne rozterki" — film fab. ang. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Śladami Archimedesa" 10.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie plastyczne — „Sztuka ludowa". 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Wiek odkryć i wynalazków". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.20 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.50 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Czas na czas". 17.10 Dla dzieci: „Wesołe minutki" — program TV Radz. 17.30 „Informacje-Towary-Propozycje". 17.55 „Przez Afrykę" — film dok. czechosł. cz. I. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Starty". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: M. Żuławski — „Korek" („Opowieści mojej żony"). 20.20 „Szpieg cesarza" — film fab. franc. („Nauczyciel"). 21.45 „Asceza" („Balet"). 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Cwartek 15.II.**

8.55 „Szpieg cesarza" — film fab. franc. („Nauczyciel"). 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Szabla i rapier". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — A. Fredro „Zemsta". 14.00 Matematyka w szkole: „Pomiar pojemności i ciężaru". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „ZSRR — 50" — Moskwa. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Kobra J. Cosmos — „Pomarańcze". 21.10 „Refleksje". 21.40 „Kobieta wierna" („Wieczorowy Uniwersytet dla Starszych Panów"). 22.25 Dziennik. 22.55 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 23.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt.

**Piątek 16.II.**

8.30 „Śmiertelny wróg" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Wyżyna Śląska". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Polska w roku 2000". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Pożyteczne związki wapnia". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia — „Budowa atomu a układ okresowy pierwiastków". 13.20 TV Technikum Rolnicze: Zoologia — „Pierwotniaki". 15.20 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Rysunek techniczny. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 ‚Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Gramy o telewizor". 18.10 „Turystyka i wypoczynek". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Perspektywy techniki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Minuty grozy" — nowela film. NRF. 20.30 Panorama Tygodnia. 21.10 Teatr TV: W. Falkowska — „Nie mam nic do powiedzenia" („Proszę wstać, sąd idzie"). 22.15 Dziennik.

**Sobota 17.II.**

8.05 „Marzenia miłosne" — film fab. węg.-radz. — cz. I. 9.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „U stóp wulkanów". 10.55 Dla szkół. (kl. VIII) Nauka o człowieku — „Skóra". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia — Budowa atomu a układ okresowy pierwiastków". 14.55 TV Technikum Rolnicze: Zoologia — Pierwotniaki". 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ostatki ośmioklasistów". 17.40 Finał XI Olimpiady Wiedzy Rolniczej. 18.35 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Marzenia miłosne" — film fab. węg.-radz. cz. I. 22.05 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.40 Teatr Rozrywki: „850 milionów" wg R. Thomasa. 23.45 „Studio przebojów" — program rozr. TV NRD.




**Piątek, 9 lutego**

8.15 Film fab. 10.00 Szkoła szachowa. 10.30 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie. 12.15 Filmy dokument. 14.15 Program dnia. 16.25 Wieczór twórczy teatru włókniarzy z Grodna. 17.30 Koncert. Transmisja z Pałacu Zjazdów. 19.00 Czas. 19.30 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie.

**Sobota, 10 lutego**

7.00 Program dnia. 8.00 Białe i czarne. 10.55 Przegląd międzynarodowy. 11.10 Tańczcie z nami. 12.40 Film fab. 15.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie. 17.45 Filmy animowane. 18.15 Spektakl teatralny. 19.00 Czas. 19.30 c.d. spektaklu. 20.35 Śpiewa E. Chil. 21.05 Mistrzostwa Europy w jeździe szybkiej na lodzie.

**Niedziela, 11 lutego**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie. 12.45 Hokej. „Skrzydła Rad" — CSKA (2 i 3 tercja). 14.15 Klub filmowy. 15.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie. 18.00 Ekran dokumentalny. 19.00 Czas. 20.15 Mistrzostwa Europy w jeździe szybkiej na lodzie.

**ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ**

# БЯЛЯВІЦКІЯ ГАСПАДАРЫ



**Аляксандр Госцік.** Нягледзячы на пажылы ўзрост, гадуе многа кароў і свіней, прадае дзяржаве паўтары тоны мяса ў год.

**Ульян Госцік.** Дома мае вельмі цяжкія ўмовы (хворая жонка). Хаця на гаспадарцы працуе сам, выконвае ўсе абавязкі, тэрмінова купляе і прымяняе мінеральныя ўгнаенні. У вёсцы гавораць пра яго: працавіты чалавек.



**Аляксей Дарашкевіч.** Прапагандыст квашонак як корму жывёле. Адзін з першых у вёсцы зрабіў у сябе сіласную яму. У яго гаспадарцы быў зроблены паказ квашэння жыта. Ён першы сакратар партыйнай арганізацыі і член праўлення сельгасгуртка.



**Ульян Марцінчык.** Пражыў ужо больш 70 год. Быў адным з арганізатараў, а потым скарбнікам сельгасгуртка ў Бялявічах. Зараз як пенсіянер дапамагае і раіць малодшым дзеячам.

**Фота А. Карпюк**



**БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ**

У кнігарні ў Гайнаўцы, вул. 1 Мая 34, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Андэрсен Ганс-Хрысціян, Дзікія лебедзі, 1969, цана 3 зл. 60 гр.

Казка вядомага дацкага пісьменніка. Каляровымі густоўнымі малюнкамі аздобілі выданне С. Кавалёў і У. Рудакоў.

Рэкамендуем усім грамадскім і школьным бібліятэкам, а таксама бацькам, як дасканалы падарунак дзецям малодшага школьнага ўзросту.

Вітка Васіль, Чытанка-маляванка, 1971, стар. 96, цана 11 зл. 50 гр.

Вельмі карыснае выданне твораў для дзяцей, якое выйшла з-пад пяра вядомага беларускага пісьменніка. У кнігу, аздобленую прыгожымі каляровымі ілюстрацыямі мастака А. Луцэвіч, увайшлі вершаваныя ладачкі-ладкі, пацешкі, скорагаворкі, лічылкі, гульні, казкі, загадкі, задачкі, вершы пра птушак і г.д.

Кнігу рэкамендуем настаўнікам беларускай мовы ў пачатковых класах, выхавацельніцам дзіцячых садоў, усім грамадскім бібліятэкам і бібліятэкам пачатковых школ, як дасканалую пазіцыю і для чытання дзецям і для выкарыстання настаўнікамі на ўроках і ў часе арганізавання розных дзіцячых гульняў.

Бічэль-Загнетава Данута, Рыжая Палянка, 1971, цана 1 зл. 90 гр.

Паэма сучаснай беларускай пісьменніцы. Карысны твор для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. Каляровыя ілюстрацыі мастака Н. Шчаснай.

Рэкамендуем усім грамадскім і школьным бібліятэкам, а таксама бацькам як карысны падарунак сваім дзеткам-малалеткам.

Корбан Уладзімір, Закаханы морж, 1972, стар. 176, цана 6 зл. 80 гр.

Зборнік баек і фельетонаў — дасціпнага гумару вядомага сучаснага беларускага байкапісца.

Рэкамендуем усім нашым чытачам як дасканалую крыніцу паляпшэння свайго настрою, а ўдзельнікам мастацкай самадзейнасці — зборнік, з якога шмат што можна выбраць для сцэны.

Кнігарня ў Гайнаўцы ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем рахункаў, калі гэтага патрабуе пакупнік). Запатрабаванні кіруйце па адрасу: «Dom Książki», Hajnówka ul. 1 Maja 34, woj. białostockie. (мг)

**ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...**

...у Гайнаўскім павеце да 1975 года будзе электыфікавана 15 вёсак.

...у Беластоцкім ваяводстве існуе 2305 крамаў, у тым ліку 400 спажывецкіх кіёскаў. 2/3 вясковых крамаў знаходзіцца ў прыватных кватэрах. Ва ўсіх крамах працуе 35800 прадаўшчыц і прадаўцоў.

...зараз на Беласточчыне ёсць 102 тысячы гарцэраў і зухаў. (яц)

# ВУЧНЁЎСКАЯ СЕСІЯ

Нядаўна ў доме «Ляснік» у Гайнаўцы адбылася папулярна-навуковая сесія, прысвечаная 50-ай гадавіне СССР. Удзельнікамі гэтай сесіі былі вучні беларускага ліцэя. Спачатку вучаніца Зіна Вішнеўская прачытала даклад аб развіцці Савецкага Саюза. Затым выступіў вучань Лаўрашук. У прачытаным ім дакладзе гаварылася аб дапамозе СССР іншым дзяржавам, аб сяброўстве з Польшчай, аб дасягненнях Савецкага Саюза ў развіцці навукі і тэхнікі. Наступны даклад прачытала вучаніца Надзя Баравік.

Потым была мастацкая частка. Першымі тут выступілі вучні і вучаніцы II класа. Прадставілі яны «Przedstawienie okolicznościowe». У міжчасе Аля Вдоўская заспявала дзве песні «Ленин» і «Я люблю тебя, жизнь», а дзве вучаніцы з трэцяга — «Беларусь» і «Беларускія партызаны». На заканчэнне Вішнеўская заспявала песню «Я люблю бярозку». Затым выступіў школьны хор, які заспяваў некалькі беларускіх і польскіх песень.

*Люба Сахарчук*
*Гайнаўскі беларускі ліцэй*

**Этнаграфічнае акенца**



*Капліčка над помнікам пры ўездзе ў вёску Новая Луплянка, Беластоцкага павету.* *Фота М. Гайдука.*

# КАЛІ ЎЖО БУДЗЕ РАДАСЦЬ У ШКОЛЕ?

У кожнай вёсцы ёсць свае клопаты. Жыхароў вёскі Чыжы, асабліва ж яе настаўнікаў, ужо амаль 20 год няспынна грызе адзін вялікі клопат. Менавіта: у разлеглай і знанай на Гайнаўшчыне вёсцы, дзе ёсць прасторная святліца, новы, прыгожы пункт аховы здароўя з кватэрай для доктара, кіёск «Руху», шырокая вуліца з тратуарамі, па якой ходзіць чуць не як у горадзе часта аўтобус, няма добрай школы. А чыжоўскім дзецям бракуе яе, як паветра, тым больш, што ходзяць сюды не толькі яны, але і дзеці з суседніх вёсак Збуч, Ракавічы.

Чыжоўская васьмігодка змяшчаецца дагэтуль аж у васьмі будынках, з чаго два класы знаходзяцца ў старым царкоўна-прыхадскім вучылішчы, якое памятае яшчэ часы напалеонаўскага нашэсця і, як кажуць, будынак гэты даўно ўжо пара разваліць, рэшта ж класаў змяшчаецца ў прыватных будынках мясцовых жыхароў. «Найдаўжэйшы калідор — 1500 метраў — гэта ў нашай школе», — жартуюць з горкай усмешкай тутэйшыя настаўнікі. Справа новай школы не сходзіць з іх вуснаў пры сустрэчы з прадстаўніком рэдакцыі.

За будынкам старога царкоўна-прыхадскога вучылішча пасля шматгадовых стараннаў растуць нарэшце падмуркі новай школы, разлічанай на 200 месц, з шасцю класнымі пакоямі і адной працоўняй. Бельскае рамонтна-будаўнічае прадпрыемства абяцала здаць школу (4-мільённую інвестыцыю) ў эксплуатацыю 25 жніўня гэтага года. Памятаючы аднак усю валакіту са школай, настаўнікі не зусім пераканаsuccessfully, што нарэшце іх клопаты скончацца і 1 верасня яны разам з дзецьмі змогуць пераступіць парог новай школы.

Мейма аднак надзею, што ўжо на гэты раз сумныя думкі чыжоўскіх настаўнікаў не апраўдаюцца: пад клапатлівай апекай куратарыі справа тутэйшай школы будзе шчасліва завершана, будаўнікі не падвядуць, аддаючы будынак у карыстанне дзецям у абяцаным тэрміне, і 1 верасня 1973 года зазвініць урачысты званок у новай, доўгачаканай школе ў Чыжах. Будзе тады вялікая радасць у школе.

*Ада Чэчуга*




# З гісторыі мінулых змаганняў

Нядаўна мы пісалі аб «Праваднiку-інфарматары па Музеі гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы» («Ніва» ад 31 снежня 1972 г.) Барыса Нікіцюка, а гэтымі днямі ўжо выйшла не менш каштоўная праца гэтага аўтара «Перамога, акупленая крывёю»*). Невялікую па аб'ёму гэтую кнігу (усяго 80 старонак) выдала праўленне аддзела прафесіянальнага саюза працаўнікоў лесу і драўнінннай прамысловасці ў Беластоку супольна з Музеем рэвалюцыйнага руху ў Беластоку пад рэдакцыяй Мечыслава Хаі — намесніка галоўнага рэдактара «Газеты Беластоцкай». Уступны артыкул належыць Віктару Тэслюку — старшыні праўлення аддзела прафсаюзаў працаўнікоў лесу і драўніннай прамысловасці ў Беластоку.

Выхад у свет гэтай працы вельмі карысна папаўняе існуючы прабел у нашых ведах па гісторыі змаганняў працоўных Беласточчыны ў міжваенны перыяд. Яе вартасць вялікая яшчэ і таму, што кніга прысвечана трохмесячнай забастоўцы лясных рабочых і возчыкаў Сакольскага і Беластоцкага паветаў у 1933 — 1934 гадах — забытай старонцы барацьбы працоўных усходняй Беласточчыны супраць санацыйнай улады за паляпшэнне ўмоваў працы і жыцця. Аўтар грунтоўна дакументуе падзеі не толькі фактамі з малавядомых архіўных і друкаваных крыніц, але ўводзіць упершыню ў навуковы зварот сабраныя ім успаміны ўдзельнікаў славутай забастоўкі. Гэты каштоўны аўтэнтычны матэрыял праз дзесяць-дваццаць год мог бы беспаваротна загінуць.

У кнізе знаходзім характарыстыку эканомікі Беластоцкага і Сакольскага паветаў у міжваенны перыяд, якая датычыць лясной гаспадаркі. Прадстаўлены грамадска-эканамічныя ўмовы лясных рабочых. У спецыяльным раздзеле паказаны стан і ўплывы палітычных партый у асяроддзі сялян і лясных рабочых Сакольшчыны і Беласточчыны. Затым вельмі дакладна аўтар прадставіў выбух і ход забастоўкі, падзеі 4 студзеня 1934 года ў Шудзялаве, у часе якіх ад куляў «гранатовай» паліцыі загінуў дваццацігадовы рабочы з вёскі Суражкова Мікалай Хомчык, а чацвёра іншых удзельнікаў забастоўкі былі паранены. Крывавая расправа паліцыі над бастуючымі не спыніла барацьбы. Бастуючыя яшчэ мацней згуртаваліся і, атрымаўшы падтрымку ад лясных рабочых іншых рэгіёнаў краіны, вялі паслядоўнае змаганне да пераможнага канца. Забастоўка закончылася перамогай рабочых. Санацыйныя ўлады вымушаны былі павысіць заработную плату і даць шэраг палягчэнняў лясным рабочым і возчыкам, а ўсю сваю нянавісць вылілі ў праследаванні членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Саюза камуністычнай моладзі Заходняй Беларусі, гэта значыць, арганізацый, якія былі правадыром і натхніцелем барацьбы працоўных. Гэтая расправа знайшла выраз у славутым судовым «працэсе 29» і іншых працэсах, што адбываліся ў 1934 і 1935 гадах у Беластоцкім акруговым судзе.

Усе гэтыя падзеі падаюцца на фоне змаганняў працоўных міжваеннай Польшчы, паказваецца супрацоўніцтва і салідарнасць сялян і рабочых у іх супольнай барацьбе супроць санацыйных уладаў, фабрыкантаў і абшарнікаў.

Кнізе ўласціва даступнасць формы, прадуманы каментарый фактаў, значная колькасць фотаздымкаў удзельнікаў забастоўкі і фотакопій розных дакументаў. У канцы кнігі змешчаны дадатковыя матэрыялы, сярод якіх асаблівую каштоўнасць прадстаўляе асабовы склад раённых камітэтаў і арганізацый Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ў Сакольскім і паўночнай часцы Беластоцкага паветаў.

Словам, з-пад пяра мгр Барыса Нікіцюка выйшла каштоўная праца. Вельмі шкада толькі, што яна выдадзена ў колькасці ўсяго 500 экземпляраў і не паступіла ў кнігарні, застаючыся выключна ўнутраным выданнем ПА ПСПЛіДП і Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Яна ж павінна апынуцца не толькі ў руках гісторыкаў, але і шырокага кола чытачоў на Беласточчыне, якія з асаблівым зацікаўленнем і ўдзячнасцю сустракаюць выданні, якія датычаць гісторыі іх роднага рэгіёну.

*Мікалай Гайдук*

*) Borys Nikitiuk, „Zwycięstwo opłacone krwią”, Białystok 1972.

# ВЯЛІКІ КОНКУРС




## ТАДЖЫКСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Да 14 кастрычніка 1924 г. — аўтаномная рэспубліка. Затым пераўтворана 16 кастрычніка 1929 года ў Таджыкскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку. У склад Саюза ССР яна ўвайшла 5 снежня 1929 г. Тэрыторыя — 143,1 тыс. кв. км (дзевяць дзесятых тэрыторыі рэспублікі займаюць горы). Насельніцтва — 3 мільёны 96 тысяч чалавек. Сталіца — горад Душанбэ (400 тысяч жыхароў).

Таджыкская ССР — адна з найбольш высакагорных рэспублік СССР. У яе паўднёва-ўсходняй частцы знаходзяцца горы Паміра з самым высокім пунктам у СССР — пікам Камунізму (вышыня 7495 м). Цэнтральную частку рэспублікі займаюць Туркестанскі, Зераўшанскі, Гісарскі і Алайскі горныя хрыбты, у паўночнай частцы знаходзіцца частка Ферганскай даліны. Сярод значнай колькасці рэк і рэчак сваёй велічынёй выдзяляюцца: Сырдар'я, Зераўшан і Амудар'я. Рэкі і рэчкі Таджыкскай ССР багаты гідраэнергіяй, на рацэ Вахш будуецца адна з самых вялікіх у СССР гідраэлектрастанцый — Нурэкская ГЭС магутнасцю ў 2,7 мільёна кілават. Клімат кантынентальны, лета сухое і доўгае, зіма кароткая і мяккая.

Нетры Таджыкскай ССР багаты рознымі карыснымі выкапнямі: вугалем, рознымі рудамі, у тым ліку цынку, свінцу, вальфраму, ртуці, волава, вісмуту і іншымі, а таксама нафтай, прыродным газам, каменнай соллю, будаўнічымі матэрыяламі. У Паміры і Цэнтральным Таджыкістане знаходзіцца значная колькасць мінеральных крыніц, якія выкарыстоўваюцца для лячэння розных захворванняў.

З занядбанай, адсталай правінцыі былой царскай Расіі Таджыкістан ператварыўся за гады Савецкай улады ў індустрыяльную краіну. Больш ста галін прамысловасці рэспублікі былі створаны пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Сярод іх вядучае месца займае энергетыка, лёгкая і спажывецкая прамысловасць. Развіваюцца таксама здабыча вугалю, нафты, розных рудаў, абагачэнне рудаў, металаапрацоўка, машынабудаванне, электратэхніка, вытворчасць будаўнічых матэрыялаў.

Асноўныя галіны сельскай гаспадаркі — гэта: вырошчванне бавоўны (асабліва каштоўных тонкарунных гатункаў), шаўкаводства, садаводства, вырошчванне вінаграду, абрыкосаў і нават лімонаў, а таксама вырошчванне розных збожжавых культур. Жывёлагадоўля Таджыкістана — гэта перш за ўсё развядзенне каракулевых авечак.

Таджыкістан славіцца вялікімі дасягненнямі ў развіцці навукі, асветы і культуры. Працуе Акадэмія навук Таджыкскай ССР, дзесяткі навукова-даследчых інстытутаў, 8 вышэйшых навучальных устаноў, 37 сярэдніх спецыяльных школ, 3084 агульнаадукацыйныя школы ўсіх відаў. У рэспубліцы дзейнічае 10 прафесіянальных тэатраў, кінастудыя, тэлевізійная студыя, радыё, выходзіць 106 газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў.

(мг)

# Куток практычных ведаў




## КАЛІ ЛАМАЮЦЦА ПАЗНОГЦІ

Часта сярод вясковых людзей можна пачуць такое: «Якая там з яе гаспадыня, гляньце толькі на яе пазногці — дагледжаныя, быццам у вялікай пані!» Няма думкі больш памылковай і шкоднай, бо добрая гаспадыня павінна быць добрай ва ўсім: і ў гаспадарнасці, і ў рабоце, і ў знешнім выглядзе, і важна пры гэтым не толькі добрая прычоска, ці прыгожая вопратка, але і модныя чыстыя туфелькі, прыгожыя рукі. Дык чаму ж добрая гаспадыня мела б мець брыдкія пазногці, калі яны з натуры здаровыя і правільна дагледжаныя?

Многія жанчыны аднак наракаюць, што маюць вельмі слабыя пазногці, якія без канца ламаюцца, а нават і расшчапляюцца. Асабліва пры цяжэйшай працы. Што рабіць тады?

Можна паспрабаваць штодзень на працягу некалькіх тыдняў мачыць пазногці перад сном у цёплым алеі, да якога неабходна дадаць некалькі кропель лімоннага соку. Мачыць пазногці трэба мінут 10—15. Падагрэты алей трэба ўліць у невялічкую глыбокую місачку, якую трэба паставіць у большы посуд з гарачай вадой, каб тэмпература была амаль увесь час аднолькавай.

Памачыўшы пазногці ў алеі, місачку накрыць і паставіць у чыстым месцы. Гэты алей можна ўжываць на працягу некалькіх дзён. Калі ж ён стане мутным, трэба яго выліць, а місачку дакладна памыць і напоўніць новай порцыяй алею і свежым сокам з лімона.

У драгерыях можна таксама купіць гатовы алей для пазногцяў пад назвай «Рэгевіт». Гэтым алеем трэба было б змазваць пазногці некалькі разоў на працягу дня, а ўжо абавязкова перад сном. Зразумела, не кожны мае такія магчымасці, каб займацца гэтай справай некалькі разоў у дзень, так што можа лепш мачыць пазногці раз у дзень у алеі з лімонным сокам.

Неабходна аднак памятаць, што як мачэнне пазногцяў у алеі з лімонным сокам, так і змазванне іх пры дапамозе «Рэгевіту» павінна адбывацца сістэматычна на працягу некалькіх тыдняў. Нельга спадзявацца нейкіх выразных вынікаў раней. Калі ж аднак праз некалькі тыдняў вы не заўважыце значнага паляпшэння стану вашых пазногцяў, неабходна будзе звярнуцца за парадай да доктара-дэрматолага (скурных хвароб).

Варта яшчэ звярнуць увагу на тое, што жанчыны, маючыя слабыя пазногці, мусяць абмежаваць ужыванне хімічных парашкоў пры мыцці бялізны, альбо мець для гэтага спецыяльныя гумовыя рукавіцы.

*Сяброўка*




# Суздаль

Звычайная кастрычніцкая нядзеля. Сёння ўстаем раней, чымсьці кожны дзень. Нас чакае ўжо аўтобус, якім адправімся на экскурсію, ва Уладзімір і Суздаль.

І вось наш аўтобус на шырокай і простай вуліцы Масквы.

— Гэта вуліца называецца Шасе энтузіястаў, — інфармуе праз мікрафон Аляксей, прадстаўнік Саюза журналістаў.

Аляксея паклікаў вадзіцель аўтобуса. Штосьці яму нашаптаў. Той, выслухаўшы, зноў узяў у рукі мікрафон: «Таварыш вадзіцель інфармуе нас, што названне гэтай вуліцы ад таго, што ў даўніх часах была гэта дарога, якой адпраўлялі ў Сібір ссыльных. Гэтай дарогай ішлі ў Сібір дзекабрысты, сацыялісты і іншыя, каму ў нейкай меры не падабаўся царскі лад. Іх людзі часта называлі энтузіястамі, а адсюль і названне дарогі».

Пад'язджаючы да Суздаля ад Уладзіміра, мы бачым велізарную панараму горада. Цэрквы, вежы, званіцы з шатровымі заканчэннямі белымі плямамі выдзяляюцца на фоне не зусім яшчэ абсыпаўшайся зелені, зліваючыся ў адно цэлае з акружаючым краявідам.

Здалёк горад выглядае вялікім. Аднак гэта толькі ілюзія, якую ствараюць 70 помнікаў, што ляжаць усяго на двух з палавінай квадратных кіламетрах. Падарожнік з XIX стагоддзя пісаў пра Суздаль: «Когда колокольный звон всех церквей наполнял окрестности, то создавалось впечатление города не меньше Москвы».

Пры ўездзе ў горад вітаюць нас каменныя стаўбы «городской заставы», пабудаваныя яшчэ пры Екацярыне II, якая зацвердзіла ў 1788 годзе праект граніцы горада. Ад таго часу Суздаль як бы памёр, далей заставы не разбудоўваўся.

Да гэтага часу горад поўнасцю захаваў архітэктурны воблік са сваімі помнікамі старадаўнасці, якія разам ствараюць непаўторны ансамбль. Тут ёсць некалькі манастыроў, вялікая колькасць цэркваў і іншых памятнікаў. Суздаль мае свой Крэмль, які з'яўляецца самай старадаўняй часткай горада. Сярод высокіх вязаў знаходзіцца Прэабражэнская царква — помнік рускім цеслярам, якія змаглі пабудаваць з дрэва такі унікальны будынак.

З Пакроўскім дзевічым манастыром звязана гісторыя князя Васілія III і баярышні Саламаніі. Як вядома, на працягу 21 года шлюбнага жыцця яны не мелі дзяцей. Вялікі князь і княгіня давалі ахвяры на манастыры, пакланяліся святыням, вызвалялі злачынцаў, варажылі і ўсё гэта не дапамагло. Тады была паклікана Сцепаніда Разанка, вядомая ў той час варажыха ў Русі, якая сказала «что детям не быть». Тады князь вырашыў развесціся. Саламанія была пастрыжана і пад імем Сафіі адаслана ў манастыр, спачатку Маскоўскі Раждзесцвенскі, а потым у Суздаль. Вялікі князь ажаніўся другі раз з маладой княгіняй Галенай Глінскай. Праз тры гады ў іх нарадзіўся сын Іаан, якога потым назвалі Іванам IV Грозным. «Великий князь ликовал, — піша гісторык Татмакоў, — не подозревая Оболенского (любоўніка княгіні — дап. А. К.) сообщником брачному делу». Нямецкі падарожнік пісаў, што вялікі князь Васіль III, пражыўшы дваццаць адзін год з жонкай Саламаніяй Сабуравай і не дачакаўшыся дзяцей, пад прымусам пастрыг яе ў манахі, а неўзабаве пасля гэтага па Маскве разышліся слухі, што ў Саламаніі, сасланай у Пакроўскі манастыр у горадзе Суздалі, нарадзіўся сын Георгі».

Грабніца Георгія знаходзілася пад Пакроўскім манастыром да 1934 года пад відам грабніцы Анастасіі Шуйскай. Аднак археолагі ў тым жа годзе раскрылі грабніцу і сцвердзілі тут дзіцячую адзежу.

Каб зберагчы помнікі гісторыі і культуры, а таксама развіць турызм, Савет Міністраў СССР у жніўні 1967 года прыняў пастанову «Аб утварэнні турыстычнага цэнтра ў горадзе Суздалі». Зараз заканчваецца тут пабудова велізарнай гасцініцы на 2 тыс. месц. Апрача таго, рэстаўрыруюцца жылыя драўляныя домікі манашак на жылыя дамы для турыстаў. Адбываецца рэстаўрацыя помнікаў культуры. А калі глядзіш на горад са званіцы Рызпаложанскага манастыра, дык бачыш старынны горад, старажытнасці якога не парушае ніякі фабрычны комін, ні чыгунка; сучаснае будаўніцтва знаходзіцца за старым горадам.

*А. Карпюк*




Тым часам Мартынаў хутка крочыў па лесе. Ён адчуваў, як пад падэшвамі ботаў крышацца сухія галінкі, чуў, як у галлі дрэў сваволіць вецер, з захапленнем і хваляваннем пазіраў на птушак і кветкі і, калі выйшаў з лесу і яго позірку адкрылася шырокая, крыху хвалістая раўніна, што стракацела летнімі праскамі, а ў процілеглым баку была акаймавана белымі стваламі тонкіх бяроз, ён ледзь стрымаў крык радасці. Сеў на ўзлеску, паклаў побач з сабой аўтамат. Радасць ад усведамлення таго, што ён, нарэшце, зноў апынуўся на радзіме пасля трох гадоў пакут і зневажанняў, ахапіла яго з такой сілай, што ён нават не мог падняцца на ногі, каб ісці далей. Ён пазіраў на кратовыя грудкі, на пні, на крапіву, на вузкую стужку ручая і падумаў: «Усё гэта — Радзіма...». Вось сядзіць ён, старшы лейтэнант Сяргей Мартынаў, дваццаці трох год, родам з Тулы, кадравы афіцэр Чырвонай Арміі... Усімі сваімі пачуццямі ён убіраў у сябе Радзіму, але ведаў, што каб зноў стаць яе дастойным сынам, яму яшчэ многае трэба зрабіць. «Я быў ва Уласава, — думаў ён, — а гэта цяжкая віна. За яе расплата — смерць. Але цяпер я зраблю ўсё, каб заслужыць права на жыццё».

Мартынаў узяў аўтамат і падняўся з зямлі. Цяпер, калі ён ішоў па пярэстаму ад кветак луту, потым праз лес і зноў па адкрытым полю, да пачуцця радасці прымяшалася трывога. Ён вырашыў як мага хутчэй расказаць усё першаму ж савецкаму афіцэру, — як ён трапіў у палон у першыя ж дні вайны, як пакутаваў у канцэнтрацыйным лагеры, як яны галадалі. Раскажа пра жудасную зіму, што забрала жыццё з сабой больш паловы яго таварышаў, пра зброевы завод у Польшчы, пра няўдалую спробу ўцёкаў, пра работу ў падпольным лагерным камітэце і партыйнай арганізацыі. Потым яго зваліла з ног хвароба, якую ён перамог толькі дзякуючы дапамозе таварышаў. Але ён усё роўна памёр бы ад недаядання, і, калі ў лагер прыйшлі ўласаўскія вярбоўшчыкі, таварышы рашылі, што ён павінен пайсці да Уласава, каб не памерці і каб ва ўласаўскай бандзе было некалькі нашых людзей. Рашэнне гэта прынялі дзевяць таварышаў, і цяпер Мартынаў спадзяваўся, што некаторыя з іх, магчыма, вярнуліся на Радзіму і пацвердзяць, што ўсё было іменна так тым студзеньскім днём 1944 года ў канцлагеры ля Данцыгскага заліва.

Мартынаў не знайшоў ніякай вёскі, ні дарогі. Ён натыкаўся на акопы, нямецкую зброю, стальныя шлёмы, дыскі з патронамі, на нізкія, наспех збудаваныя, цяпер ужо разбураныя дзоты. Зброя пакрылася ржой, дыскі пазелянелі ад цвілі — ляжалі там не адзін, відаць, тыдзень. Усё сведчыла аб тым, што фронт стаяў тут нядоўга. Танкі вырылі ў глебе глыбокія каляіны, але там, дзе пры паваротах гусеніцы зрэзалі толькі верхні пласт зямлі, зноў ужо вырасла трава.

Каля поўдня, агінаючы ўзлесак, Мартынаў раптам здаля ўбачыў надворныя пабудовы і тры хаты — адна была без даху, ад другой засталіся толькі апаленыя бярвенні і бэлькі і толькі з коміна трэцяй, зусім цэлай хаты, ішоў дым. Каля хаты стаяла дзяўчына і карміла карову. Мартынаў кінуўся бегчы праз чортапалох, па крапіве і толькі ля самай аколіцы гэтай разбуранай вёскі прымусіў сябе сцішыць крок. «Як ты растлумачыш людзям, — сказаў ён сабе, — чаму гэтак бяжыш?»

На дарозе яму сустрэўся стары селянін, у якога ён запытаў, ці ёсць паблізу ваенныя і як іх знайсці.

— Ваенныя? — перапытаў стары. — Шэсць ужо тыдняў няма тут ніякіх ваенных. Вайна адсюль пайшла, што ж тут ваенным рабіць?

— Змагацца з фашыстамі, што ў лясах.

Стары здзіўлена глянуў на Мартынава:

— Глупства. Няма тут ніякіх фашыстаў. Вунь там яны аднойчы цэлы дзень стралялі, а потым перабраліся цераз рэчку і пайшлі на захад. Дзе ж тут быць фашыстам?

— Каля Чырвонага яны хаваюцца яшчэ ў лясах.

— Лухта! — упіраўся стары. — Чырвонае! На мінулым тыдні я сам там быў, пайшоў пазычыць насенне. Навокал там усё спакойна.

— Чырвонае ж у гэтым баку?

— Не, вунь у тым, — паправіў Мартынава стары. — Зойдзем у хату. Час ужо палуднаваць, а ты ж пэўна прагаладаўся.

Яны ўвайшлі ў хату. Адна сцяна была зрашэчана кулямётнай чаргой, але наогул хата была цэлая. Мартынаў павітаўся з гаспадыняй і з нясмелай хударлявай дзяўчынкай гадоў дзесяціадзінаццаці. Сеў на ляжанку і абвёў позіркам драўляныя талеркі, што стаялі на паліцы, шырокі стол і крэслы з разнымі спінкамі. Яму зрабілася прыемна ад думкі, што ён, нарэшце, упершыню за многа год зноў апынуўся ў так знаёмай яму і блізкай сэрцу сялянскай хаце і на роднай сваёй мове размаўляе з савецкім чалавекам. Аднак словы старога пра тое, што ў навакольных лясах няма фашыстаў, не давалі яму спакою. Яму хацелася распытаць старога больш падрабязна, але той не даваў яму і слова ўставіць — усё расказваў і расказваў пра фашысцкую акупацыю, пра партызанскую барацьбу, пра вяртанне Чырвонай Арміі.

— Амаль усе нашы мужыкі былі ў партызанах, — паведаміў ён. — Бельсіна — сапраўдная партызанская вёска.

«Бельсіна! — здзівіўся Мартынаў. —

